# Хрыстос нарадзіўся!! Слаўце яго!!!

ПАГОНЯ

Чацвер
4 студзеня 2001 г.
№ 1 (497)
Кошт 75 рублёў

## На Каляды ў Гродне будуць званіць званы

**7 студзеня сотні праваслаўных кафедральных сабораў і храмаў Беларусі сальюцца ў адзіным калядным перазвоне званоў, прысвечаным 2000-годдзю Нараджэння Хрыстовага і надыходу трэцяга тысячагоддзя. Званіць у гэты дзень будуць і ў гарадзенскіх храмах.**

Пачне калядны перазвон у Гродне ў 12.05 Кафедральны сабор. У 12.20 далучыцца Уладзімірская царква, затым Манастыр Нараджэння Божай Маці.

У галоўным праваслаўным храме нашага горада - Кафедральным саборы - званіць будуць Уладзімір Барысевіч і Аляксандр Казакевіч. Яны - выпускнікі духоўнай семінарыі, таму ў званарный справе непрафесіяналы. Нягледзячы на тое, што ўрачыста званіць у званы давядзецца ўпершыню, Уладзімір Барысевіч упэўнены, што ўсё адбудзецца на добрым узроўні. «Галоўнае, каб вытрымалі рукі званіць да 12.30», - выказваецца ён пра магчымую перашкоду.

У Кафедральным саборы Гродна - пяць званоў. Самы вялікі з іх - Дабравест - з'явіўся ў саборы ў 30-я гады, а самы найстарэйшы звон горада датуецца яшчэ дарэвалюцыйным часам.

Званіць разам будуць розныя тыпы званоў, што не зусім звычайна. Аднак гэта не выходзіць за межы кананічнага святочнага звону, прынятага ў Рускай праваслаўнай царкве.

Ініцыятарамі адраджэння ў Беларусі традыцыі калядняга перазвону сталі члены сятога Сіноду Беларускай праваслаўнай царквы і Школа званароў Менскага епархіяльнага ўпраўлення. Па магчымасці, да акцыі БПЦ далучацца праваслаўныя брацтвы на Украіне і ў Расеі.

## Праваслаўныя святкуюць

**Гарадзенскае епархіяльнае ўпраўленне Беларускай праваслаўнай царквы запланавала ў студзені шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных Калядам і надыходу новага тысячагоддзя.**

7 студзеня ў Кафедральным саборы Гродна а 10-й гадзіне адбудзецца Елка для дзетак Нядзельнай школы. А 17-й гадзіне, зноў жа ў саборы паводле традыцыі збяруцца святары ўсіх прыходаў горада на Саборнае набажэнства.

14 студзеня Гродна наведае Мітрапаліт Філарэт. Ён адслужыць набажэнства ў Манастыры Нараджэння Божай Маці.

Таксама ў сярэдзіне студзеня, хутчэй за ўсё ў памяшканні епархіяльнага ўпраўлення, будзе ладзіцца выстава партрэтаў гарадзенскіх епіскапаў. Аўтар выставы - мастак Уладзімір Качан.

Павал Мажэйка

## Святыню ў Жыровічах абновяць!

**Гарадзенскі аблвыканкам зацвердзіў праект рэканструкцыі комплексу Свята-Успенскага манастыра.**

Праект распрацаваны інстытутам «БелНДІПгорадабудаўніцтва» па заказу Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі. Кантроль за яго рэалізацыяй ускладзены на Слонімскі райвыканкам і галоўнае ўпраўленне архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання аблвыканкама.

Манастырскі комплекс, размешчаны ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёна, з'яўляецца помнікам архітэктуры XVII-XIX стагоддзяў і лічыцца галоўным у Беларускай праваслаўнай царкве.

Ася Куніцкая




**4, 5 студзеня** - воблачна, з праясненнямі, часам - ападкі, галалёдзіца, вецер паўднёвы, 4-9 м/с. Тэмпература паветра **4, 5 студзеня** - уначы 0...-5, удзень - 2...+3.

## Ражджэственскае пасланне Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі



*«Вызнаючы... Уцялесненага і Уваскрэслага Госпада як Сына Божага, адзінага Збавіцеля людзей і ўсяго свету, як Стварыцеля Святой Сваёй Царквы, прапаведуем і мы, як Ён прапаведаваў.*

***І паўтарылі айцы нашы, што пакаянне - гэта адзіны шлях збаўлення для кожнага чалавека, у любы час, у любую эпоху і пры любых абставінах»***

**(З паслання Прадстаяцеляў Праваслаўных Цэркваў з нагоды пачатку святкавання 2000-годдзя Ражджаства па плоці Госпада нашага Ісуса Хрыста)**

Узлюбленыя ў Госпадзе архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Гасподзь падарыў усім нам вялікую радасць і высокую адказнасць: жыць перад абліччам Божым і здзяйсняць наш хрысціянскі подзвіг збаўлення ў той час, калі спаўняецца дзве тысячы гадоў ад Ражджаства Хрыстовага і надыходзіць трэцяе тысячагоддзе новазапаветнага быцця роду чалавечага.

Святая ноч Ражджаства, пасярод якой заззяла Сонца Праўды - Хрыстос Бог наш, стала цэнтрам гісторыі часоў і народаў. Гэта падзея аб'яднала вакол сябе не толькі ўвесь род чалавечы ад Адама да нашых дзён, але і Божыя задумы пра стварэнне свету, пра яго быццё і пра надыход новага неба і новай зямлі, на якіх жыве праўда (**2 Пят.3:13**).

Многія сотні стагоддзяў чакала паўшае чалавецтва Нараджэння Збавіцеля. Пра гэта апавядаюць кнігі Старога Запавету, якія, паводле словаў святых Айцоў, быў часам чакання прышэсця Хрыстовага. «Аўраам...рады быў убачыць дзень Мой, - гаворыць на старонках Евангелля Сам Збавіцель, - і ўбачыў, і ўзрадаваўся» (**Ін. 8:56**).

Узлюбленыя мае! Кожны год на богаслужэнні Ражджаства мы спяваем Ангельскае славаслоўе: «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля». А ці задумваемся мы пра тое, што ў гэтых словах заключаецца правіла пабудовы жыцця чалавека?

Так, вызнанне адзінага Бога, у Троіцы славімага і пакланяемага, ажыватварае духоўны стан чалавечай асобы. Захаванне міру было і застаецца самай жаданай мэтай народаў зямлі. Асновай жа ўсяго з'яўляецца добрая воля чалавека, скіраваная на памнажэнне дабра ў свеце.

Чаму ж тады ўмацоўваецца на зямлі зло? Чаму хрысціяне к пачатку трэцяга тысячагоддзя ад Ражджаства Хрыстовага зноў сталі малым статкам? Таму што, адпаведна словам Адкравення святога апостала і евангеліста Іаана Багаслова, «да вас сышоў дыявал у моцнай лютасці, ведаючы, што нямнога яму застаецца часу» (**Адкр. 12:12**). І апостал Пётр настаўляе нас: «Будзьце пільныя, не спіце, таму што вораг ваш дыявал, ходзіць як рыкаючы леў, шукаючы, каго праглынуць» (**1 Пят. 5:8**). Аднак Уваскрасеннем Хрыстовым нам пададзена вялікая хрысціянская надзея на канчатковую перамогу дабра. Таму кожны дзень з двухтысячагадовай гісторыі хрысціянства скарачае час ворагаў хрысціянства, як бы яны ні ўзмацняліся ў гэтым свеце.

Сёння ўсім нам, хто знаходзіцца ва ўлонні Праваслаўя, варта звярнуцца як да нашай далёкай мінуўшчыны, так і да дзён цяперашніх, каб зноў асэнсаваць наш адказ на пытанне, якое ставіць Свяшчэннае Пісанне: адкуль мы прыйшлі і куды ідзем (**Быц. 16:8**)?

Падобна да першага чалавека, якому Гасподзь запавядаў вырошчваць і ахоўваць райскі сад (**Быц. 2:15**), хрысціянін павінен вырошчваць і ахоўваць сад свайго сэрца ад насення зла і пладоў граху. Як і ва ўсе часы, каля дзвярэй нашых душ ляжыць грэх, ён вабіць нас да сябе, але мы пакліканы Богам пераадольваць грэх (**Быц. 4:7**), а не рабалепстваваць перад ім.

Радасна святкуючы 2000-гадовы юбілей Хрысціянства, мы ахопліваем духоўным позіркам многавекавы шлях Праваслаўя на Беларускай зямлі. А ўспамінаючы падзеі апошніх дзесяці гадоў, мы адчуваем цяпер, у дні святкавання Ражджаства Хрыстовага, - светлую пасхальную радасць.

Уваходзячы ў трэцяе тысячагоддзе хрысціянскага быцця роду чалавечага, мы ўсклікаем разам са старазапаветным прарокам: «Смерць! дзе тваё джала? пекла! дзе твая перамога?» (**Ас. 13:14**). І ў вуснах нашых - новазапаветнае прароцтва аб Хрысце: «ад Духа Святога...народзіць Сына, і дасі Яму імя Ісус, бо Ён збавіць людзей Сваіх ад грахоў іх» (**Мф. 1:20-21**).

**«Хрыстос нараджаецца - слаўце»!**

## З пакупкамі пачакаем да пятніцы

**2 і 3 студзеня не выйшлі на рынкі гарадзенскія прадпрымальнікі. Абсалютна аніякага гандлю не вялося на рынку «Паўднёвы», а на Скідальскім гандлявалі толькі на вуліцы Паліграфістаў. У страйкавым камітэце паведамілі, што страйк прадпрымальнікаў працягнецца да пятніцы, таму гарадзенцы ўжо могуць планаваць час на закупы.**

Як паведамляюць у страйкаме, па стану на 3 студзеня страйкуюць горад Менск, усе абласныя цэнтры і большасць раённых.

Страйкуючыя прадпрымальнікі мяркуюць, што цяперашнія маштабы страйку захаваюцца і ў астатнія да пятніцы дні. Але ж не выключана, што невялікая частка прадпрымальнікаў усё ж выйдзе на працу.

Іван Паўлёнак

## За святы – свая плата

**«Навагоднія святы на Гарадзеншчыне прайшлі адносна спакойна, дзякуючы зладжанай і добра арганізаванай працы міліцыянтаў», - паведамілі ПАГОНІ ў прэс-службе УУС аблвыканкама.**

Было зарэгістравана 14 злачынстваў (звычайна за суткі на Гарадзеншчыне рэгіструюць каля 30-ці). Сярод іх - тры забойствы. 1 студзеня ў Смаргоні ў сваёй кватэры быў знойдзены з дзвюма нажавымі ранамі труп 50-гадовага мужчыны. Высветлілася, што яго забіў падчас сваркі сын, які раней ужо меў дачыненне з крыміналам. Забойца затрыманы.

У Гродне ў сваёй кватэры, што па вуліцы Мендзялеева, знайшлі труп пенсіянеркі 1914 года нараджэння. Бядачка загінула ад пераломы шэйнага пазванка. Яшчэ адно забойства было здзейснена ў Слоніме.

Як заўсёды, не абыйшлося без дробных крадзяжоў. Кур'ёзны выпадак адбыўся ў Лідзе. У мужчыны, які ішоў віншаваць кліентаў, скралі торбу з касцюмам Дзеда Мароза, пашпартам і 2000 рублёў. Такім чынам злачынцы перашкодзілі навагоднюму цуду і пакінулі ахвяру без дакументаў і працы.

У Навагоднюю ноч пажары Гродна не закранулі. Было зарэгістравана два пажары ў Шчучынскім і Астравецкім раёнах.

Пасля навагодняга балявання ў Гродне толькі тры чалавекі ў цяжкім стане патрапілі ў медвыцвярэзнік.

Ігар Гандлеўскі

## Сам сабе Дзед Мароз

**Даволі незвычайна сустракаў надыход новага тысячагоддзя 22-гадовы жыхар вёскі Навасёлкі Шчучынскага раёна. У навагоднюю ноч ён спрабаваў абрабаваць самую вялікую краму горада Шчучына - «Дом гандлю».**

Злачынца разбіў уваходныя шкляныя дзверы і апынуўся на першым паверсе крамы. Несьпяшаючыся ён стаў выбіраць сабе святочныя падарункі. Падцягнуў да дзвярэй ровар, спакаваў тэлевізар, фотаапарат і магнітолу. Акуратненька склаў нажы ды відэльцы. Паклапаціўся і пра свой знешні выгляд. У аддзеле дзіцячай вопраткі ён змяніў свае стаптаныя боты і шарсцяныя шкарпэткі на новенькія чаравічкі, а у суседнім - прыдбаў сабе жаночае паліто. У прадуктовым аддзеле хлопец падсілкаваўся пляшкай гарэлкі.

Пачуўшы міліцэйскую сірэну, няўдалы зладзюшка схаваўся пад прылавак. Там яго і знайшлі міліцыянты.

Алеся Сідлярэвіч

# Вядзецца пошук кандыдата

**Дэмакратычныя сілы краіны нібыта пагадзіліся вылучыць адзінага кандыдата для ўдзелу ў будучых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Газеты друкуюць меркаванні пра шанцы таго ці іншага магчымага прэтэндэнта. Узгадваюцца прозвішчы шаноўных асобаў і гучаць высновы...**

Сёлета ў шэрагу выданняў часцяком узгадваецца імя гарадзенца Сямёна Домаша. Некаторыя аналітыкі даволі сур'ёзна ставяцца да ягоных магчымасцяў заняць найвышэйшую пасаду ў краіне. Сучасны адукаваны выбаршчык не паленуецца зазірнуць у даведнік «Хто ёсць хто», каб больш ведаць пра чалавека. Нарадзіўся 2-га студзеня 1950 года ў вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна. Мае дзве вышэйшыя адукацыі, у тым ліку эканамічную. Працаваў механікам, галоўным інжынерам, дырэктарам аўтабазы, Гарадзенскага аўтакамбіната. Кіраваў прамыслова-транспартным аддзелам гаркама партыі, быў старшынём Лідскага гарвыканкама, узначальваў Гарадзенскі гарадскі выканаўчы камітэт. Пэўны час быў старшынём аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў. Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання. Рашуча праявіў сябе ў лістападзе 1996 года, калі Вярхоўны Савет спрабаваў аб'явіць імпічмент Аляксандру Лукашэнку. Страціў работу. Цяпер узначальвае няўрадавы абласны Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва», кіраўнік Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь»...

Сямён Домаш - ураджэнец цэнтральнай Беларусі. Не ўсходняй яе часткі і не заходняй. Ёсць пэўная перасцярога да асобаў з супрацьлеглых тэрыторыяў. Маўляў, адзін усё на Маскву заззіраецца, а другі ў бок Варшавы вочы ўтаропіў. А дзе ж Вільня, Кіеў, Талін, Прага ды Вена, не кажучы пра Боны і Вашынгтоны?.. Становішча ў Сямёна Домаша таксама тое, што ён не з тых, хто рве на сабе кашулю, не вывучыўшы сітуацыю. Гэта прагматык у палітыцы. Ён браў на работу выдатных спецыялістаў у сваёй галіне. На палітычныя прыхільнасці не звяртаў увагі. Гэта было для яго не асноўным. Аднак камусьці больш спадабалася гуляць у палітыку, чым вырашаць надзённыя праблемы. Дагуляліся. Сёння за гэта расплочваемся.

З магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі Сямён Домаш адзіны, хто мае досвед дзяржаўнага кіравання на ўзроўні перадавой вобласці. Нездарма, у ЗША кіраўніком дзяржавы становіцца кіраўнік штата, а не прасты амерыканскі фермер - малады палітык. Бо не апошняя справа - асабіста ведаць наменклатурных работнікаў, якія таксама да цябе прыглядаліся і вывучалі. Што да Сямёна Домаша, дык тасаваць кадры, як карты - не яго манера працы.

Ёсць небяспека, што блакітная мара стаць прэзідэнтам саб'е з панталыку шмат каго з палітыкаў. Некаторым не дае спакою думка: калі дырэктар адсталага саўгаса стаў прэзідэнтам, то чаму я не магу паўтарыць ягоны шлях? Самадурства і самалюбства нам не пазычаць. На шчасце, не кожны збярэ патрэбную колькасць галасоў выбаршчыкаў, каб вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты. Здаецца, і тут Сямён Домаш мае неблагія шанцы. Менскія палітыкі даўно заўважылі дзейнасць Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь».

Сямён Домаш зацвердзіўся сярод вядомых беларускіх палітыкаў. Магчыма, ён рызыкне прэтэндаваць на самую высокую пасаду ў краіне. Цяпер дэмакратычныя сілы Беларусі выяўляюць сучаснага палітыка, у якім мае патрэбу грамадства і які апраўдае спадзяванні гэтай грамады.

**Антон Лабовіч**

**<u>Ад рэдакцыі</u>: Другога студзеня Сямён Домаш адсвяткаваў свой дзень нараджэння. Рэдакцыя ПАГОНІ віншуе яго і спадзяецца на тое, што ён ужо ў гэтым годзе стане Прэзідэнтам Беларусі! Для краіны гэта будзе найлепшы выбар!!**

**Моцнага здароўя, верных сяброў і паплечнікаў, удачы і поспеху ва ўсіх пачынаннях!!!**




# Ці дапаможа Чыгір будучаму Прэзідэнту?

**Вядомы палітык, былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір лічыць, што ў 2001 годзе ў Беларусі адбудуцца кардынальныя змены.**

«Абсалютная большасць насельніцтва ўжо пераканалася, што абраны цяперашнім кіраўніцтвам краіны шлях палітычнага і эканамічнага развіцця прывёў яе ў тупік. Гэта дае падставы меркаваць, што абсалютная большасць насельніцтва будзе гатова змяніць сітуацыю на прэзідэнцкіх выбарах. Значыць, у будучым, 2001 годзе магчыма і змена лідара», - сказаў Міхаіл Чыгір.

Ацэньваючы палітычную і эканамічную сітуацыю, былы прэм'ер сказаў, што не трэба быць спецыялістам, каб убачыць праўды. Краіна аказалася ў міжнароднай ізаляцыі, у эканоміку практычна не ўкладваюцца інвестыцыі. У Беларусі значны доўг перад Расеяй за энергеносьбіты і ў той жа час Расея ўжо завозіць сюды прадукты харчавання, чаго ніколі ў гісторыі не было. Міхаіл Чыгір нагадаў, што ў савецкія часы Беларусь штогод пастаўляла ў агульнасаюзныя фонды 300 тысяч тон мяса і 1 мільён тон малочных прадуктаў.

«Сумная будучыня нас чакае, калі мы захаваем цяперашні курс. Я пераконваў Лукашэнку аб неабходнасці змяненняў, яшчэ калі працаваў прэм'ер-міністрам. Няма перспектывы ў калгасна-саўгаснага ладу - гэта зразумее любы чалавек, здольны аналізаваць сітуацыю. Але ў нас у краіне жорстка трымаюцца старой пазіцыі. І такая ж сітуацыя ў эканоміцы ў цэлым», - сказаў Чыгір. Рапарты аб поспехах і эканамічным росце ён назваў «фікцыямі і прыпіскамі». Улады спрабуюць пераканаць насельніцтва, што ў Беларусі за 3 гады ў паўтара раза вырас аб'ём вытворчасці - «трэба проста ацаніць гэтыя аб'ёмы ў натуральным вылічэнні», прапанаваў былы прэм'ер. А самы правільны паказчык стану эканомікі - гэта заработная плата. Калі ВУП рэальна рос, расла б і зарплата. А яна зараз менш, чым у 1996 годзе!

Пры змене кіраўніцтва і палітычнага курсу першай праблемай, якая, на думку Чыгіра, будзе на працягу 2-3 месяцаў вырашана, стане пераадоленне міжнароднай ізаляцыі з усімі вынікаючымі станоўчымі наступствамі. Калі ж цяперашняе кіраўніцтва Беларусі не зможа правесці адкрытыя і сумленныя прэзідэнцкія выбары - краіна будзе ў яшчэ больш глыбокай ізаляцыі. Зараз, паводле слоў палітыка, яшчэ цяжка гаварыць пра сам «сцэнарый» працэсу змены улады. Апазіцыйныя сілы знаходзяцца ў стане перамоў, кансультацый, абмеркаванняў. «Нехта спрабуе «раскруціцца», прадпрымае крокі, каб стаць больш вядомым і папулярным. Таму некаторы час трэба пачакаць, перш чым вызначыцца канчаткова», - лічыць Міхаіл Чыгір.

Вядома, што Міхаіл Чігыр першым заявіў аб магчымасці ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах і зараз рыхтуе сваю «каманду». Ён нагадаў, што падчас выбараў прэзідэнта, праведзеных па рашэнню Вярхоўнага Савета 13-га склікання, шматлікія прыхільнікі Міхаіла Чыгіра ва ўмовах пераследу сабралі 150 тысяч подпісаў. Сёння, паводле слоў Чыгіра, подпісаў можа быць сабрана ў 2-3 разы больш. Аднак калі Чыгір убачыць, паводле яго слоў, што «ў іншага кандыдата шансы вышэй, чым у мяне», то будзе працаваць на гэтага чалавека.

**Генадзь Барбарыч**

# Чынавенству не трэба баяцца змены ўлады

## Запалохваюць усіх

Запалохванне сёння ёсць асноўны спосаб кіравання краінай. Асабліва ўзмацнілася запалохванне напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Яно ўжываецца па двух асноўных накірунках: запалохванне ўсяго грамадства ў цэлым і запалохванне выбраных катэгорыяў людзей. Рабочых спрабуюць настрашыць прыватызацыяй іх прадпрыемстваў, сялянаў - перадачай зямлі куркулям-фермерам, вайскоўцаў - захопам у палон войскамі NATO, пенсіянераў - галоднай смерцю, калі ўладу возьмуць дэмакраты, рускіх - беларускімі фашыстамі, беларусаў - рускімі алігархамі, а ўсіх разам - жыда-масонскімі змовамі, стукачоў і катаў НКВД-КГБ - люстрацыяй і г.д.

Асобна і мэтанакіравана палохаюць чынавенства. Ва ўмовах усеахопнай бюракратызацыі афіцыйнага палітычнага жыцця чынавенства робіцца вялікай сілай. Не столькі ў якасці велізарнай колькасці выбаршчыкаў, як у якасці асноўнага маніпулятара вынікамі любых выбараў. Таму ёсць сэнс разгледзець спосабы запалохвання «вертыкалі», рэакцыю на гэта дзяржслужачых і пазіцыю, якую зойме наменклатура падчас галасавання за будучага прэзідэнта Беларусі.

## Чым страшаць чыноўніка?

Лейтматывам кампаніі па запалохванні чынавенства служаць словы А.Лукашэнкі пра тое, што калі не будзе ЯГО - не будзе і «вертыкалі» разам з яе вялікімі і малымі начальнікамі. Безумоўна, гэта так. Адразу пасля прыходу да ўлады апазіцыі будуць зменены ўсе міністры, потым будуць праведзены выбары ў органы мясцовага самакіравання. Шанцаў перамагчы на гэтых выбарах у прадстаўнікоў цяперашняй «вертыкалі», прызначаных кіраваць абласцямі і раёнамі персанальна А.Лукашэнкам, няшмат. Не кажучы пра выбары ў парламент краіны ва ўмовах канкурэнцыі з прадстаўнікамі арганізаваных палітычных партыяў і грамадскіх суполак. Свабодная прэса, неабмежаваная палітычная агітацыя высвятляць усю праўду пра сённяшні рэжым, і прадстаўнікам «вертыкалі» будзе немагчыма ў вачах выбаршчыкаў пазбегнуць адказнасці за развал эканомікі ды пераслед людзей, за карупцыю і марнатраўства народных грошай.

Так што асцерагацца за свой лёс класу чынавенства сапраўды ёсць падставы. Аднак, гэта зусім не азначае, што сапраўдныя інтарэсы дзяржаўных служачых цалкам супярэчаць інтарэсам астатніх групаў выбаршчыкаў. Наадварот, толькі змена ўлады рэальна абароніць правы тых, хто працуе ў дзяржаўным апараце.

## Наколькі рэальныя страхі дзяржслужачых

Пачнем з таго, што працу страціць па палітычных матывах вельмі невялікая колькасць чыноўнікаў. Гэта - пара сотняў міністраў, іх намеснікаў (і тое, не ўсіх), старшыняў выканкамаў і кіраўнікоў адміністрацыяў, апарат былога прэзідэнта, члены парламента, старшыні мясцовых савецкіх органаў. Максімум - некалькі тысячаў. Так што, «правадыры» заклапочаныя зусім не лёсам абсалютнай большасці служачых дзяржапарата, а сваім месцам ля «карыта».

З астатніх прадстаўнікоў «вертыкалі» будуць выкінутыя шчыра хабарнікі, садысты і лайдакі. Гэтых - таксама няшмат. Менавіта яны (і зноў жа, не ўсе) уваходзяць у групу рызыкі, яны ж будуць найбольш гучна крычаць пра «паляванне на вядзьмарак». Астатнім жа няма чаго баяцца, бо ўсе разумеюць, што «раней часіны былі такія». Без прафесіяналаў у галіне кіравання не абыходзіцца ні адна ўлада, так што 99,9 працэнтам служачых турбавацца няма чаго.

Вось і ўся небяспека для чынавенства ў выпадку змены ўлады. А вось магчымасці прыдбаць для сябе пэўныя гарантыі перавышаюць гіпатэтычную небяспеку адназначна.

## Змена ўлады прынясе чыноўнікам шмат карысці

Па-першае, будзе скончана са свавольствам і валюнтарызмам пры вырашэнні службовай кар'еры і лёсу дзяржслужачых. Звальняць, садзіць у турму, канфіскоўваць маёмасць будуць паводле судовых працэдураў і законаў.

Па-другое, кіраванне будзе адасобленае ад палітыкі. Чыноўнікі будуць выконваць функцыі незалежна ад змены ўлады. Гэта дасць магчымасць рабіць кар'еру не выскачкам і халуям, а дасведчаным прафесіяналам і прыстойным людзям.

Па-трэцяе, за кошт скарачэння персаналу (выгнаных з працы казнакрадаў і прайдзісветаў), рэарганізацыі дзяржаўнага апарата, падвысіцца заробная плата ніжэйшага і сярэдняга звяна служачых.

Па-чацвёртае, найбольш дасведчаныя ўпраўленцы змогуць перайсці ў легальны, чысты прыватны бізнес, зарабляць грошы без боязі крымінальнай адказнасці за парушэнне штучна створаных абмежаванняў.

Па-пятае, зрэшты, чыноўнікі паправяць сваё здароўе; бо ўсе хваробы, як вядома, ад нерваў, а змест сённяшняй працы якраз і складаецца з наймыснага ўзбуджэння псіхікі выканаўцаў аж да стварэння перманентнага афекту.

## Ці дамовяцца клеркі з «адмарозкамі»?

Задача апазіцыі і будучага прэзідэнта - дайсці да кожнага клерка, гарантаваць недатыкальнасць прафесіяналам і забяспечыць ачышчэнне дзяржапарата ад дармаедаў і балбатуноў. З улікам таго, што чынавенства - адна з самых шматлікіх па колькасці групаў насельніцтва, часу засталося няшмат.

**Сяргей Самасей**

---

**Церлюкевіч Вера Максімаўна**

**(1941-31.12.2000)**

31 сьнежня 2000 года пасьля хваробы памерла Вера Максімаўна Церлюкевіч, сябра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ, актыўная ўдзельніца Беларускага Вызвольнага Руху. Абвостраная пачуцьцё справядлівасьці, шчырая любоў да Бацькаўшчыны - такімі былі галоўныя рысы асобы Веры Максімаўны. Такой запомняць яе тысячы людзей, якія ведалі яе як бясстрашную барацьбітку за Беларусь. Простая беларуская жанчына, рабочая, яна глыбока перажывала за лёс нашай краіны, устала ў першыя шэрагі абаронцаў незалежнай Беларусі. Яе не зламілі ні рэпрэсіі, ні прыніжэньні з боку антынароднага рэжыму. Да апошняга дня яна захавала ў душы веру ў наш народ і шчасьлівую будучыню нашай дзяржавы. Выказваем шчырыя спачуваньні яе сям'і. Сьветлая памяць!

**Юрась Беленькі,**

**Выконваючы абавязкі Старшыні ў Беларусі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ і Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

# Настачка Смолка нарадзілася разам з Новым векам

**Навагодняя ноч-2001 кожнаму падаравала свой цуд. Аднак, напэўна, самы вялікі і шчаслівы цуд выпаў маладой сям'і Смолкаў з Гродна.**

Акурат праз паўтары гадзіны пасля надыходу Новага года, стагоддзя і тысячагоддзя, у 1.30 ночы 1 студзеня 18-гадовая Аксана Смолка нарадзіла дачушку Настачку. Насця Смолка стала першым чалавечкам XXI стагоддзя ў нашым горадзе. Нарадзілася дзяўчынка ростам 52 сантыметры і вагою 3,150 кілаграма. Калі карэспандэнтка ПАГОНІ зайшла ў палату да маладой маці, якраз прынеслі на кармленне немаўлятаў. І ўвесь час размовы Настуля смактала сабе малако, не звяртаючы аніякай ўвагі на мітусню дарослых вакол сваёй асобы.

Аксану з нараджэннем дачкі павіншавалі ўжо маці і муж, які, дарэчы, працуе ў тралейбусным упраўленні. З пажаданнямі шчасця і задроўя далучаемся і мы, калектыў ПАГОНІ.

Маладая матуля - навучэнка Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Жывуць Смолкі асобна ад бацькоў у невялікай кватэры старой планіроўкі. Пра якія-небудзь падарункі ад гарадскіх уладаў сям'я пакуль што нічога не чула. Ды і не матэрыяльныя набыткі цяпер турбуюць яе. Як гаворыць Аксана, для іх цяпер галоўнае - здароўе, «хочацца, каб ўсё было добра і каб дачушка здаровенькай расла». Як ні дзіўна, але маладыя бацькі не задумваліся, каго чакалі больш - сына ці дачку. І Настачка цяпер - самае чаканае і любімае для гэтай сям'і дзіцятка.

А паводле словаў маці, дзяўчо больш падобнае на тату. Калі ўсё будзе добра (а маці і дзіця адчуваюць сябе добра), Аксана і дачка Насця праз некалькі дзён ужо будуць дома.

А ўсяго ў першыя навагоднія суткі ў гарадзенскім раддоме нарадзілася шасцёра немаўлятаў. Другі наймалодшы чалавек XXI стагоддзя ўбачыў свет каля 7 гадзін раніцы 1 студзеня. Аднак навагодняя ноч не была для нашых дактароў занадта турботнай. Па статыстыцы, у гарадзенскім раддоме нараджаецца 9-10 немаўлятаў у суткі. Так што Millenium ў Гродне не спраўкаваў ніякага дэмаграфічнага ўсплёску.

І ўсё роўна - шчаслівага нова га веку нашым равеснікам стагоддзя! Як-ніяк, падчас гістарычнай падзеі - на мяжы эпохаў - нарадзіліся!

**Алена Сіневіч**

# За што пакаралі Марыю Мацко?

**Напярэдадні Новага года гарадзенская ўлада выдала на-гара чарговае дзівацтва ва ўласным выкананні. Камісія па адміністрацыйных справах Ленінскага райвыканкама абавязала жыхарку Гродна Марыю Мацко выплаціць 3600 рублёў штрафу. Толькі за тое, што Марыя, карыстаючыся сваім канстытуцыйным правам, малілася.**

Канстытуцыя Беларусі дае чалавеку права самастойна вызначаць сваё стаўленне да рэлігіі, асобна альбо разам з іншымі вызнаваць любую рэлігію ці не вызнаваць аніякай, выказваць і распаўсюджваць свае перакананні, звязаныя са стаўленнем да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў.

Але наўрад ці Марыя думала пра Канстытуцыю, калі 29 лістапада мінулага года сэрца паклікала яе на месца ўзарванай у 1961 годзе бальшавікамі Фары Вітаўта. У гэты дзень, на месцы Фары, быў усталяваны крыж-напамін, асвечаны ўвечары святаром. Праз дзень крыж паводле загаду ўладаў, быў знішчаны. Але вернікі беларускай парафіі, сярод якіх была і Марыя Мацко, вырашылі штодзень да заканчэння адвэнту (каталіцкага пасту) прыходзіць на гэтае месца і маліцца. Маліцца за тое, як кажа Марыя, «каб адрадзілася Фара».

Ініцыятыва беларускіх вернікаў не спадабалася гарадской уладзе, і тая напусціла міліцыю.

У першы дзень Марыю выратавалі дзеці: яны пачалі плакаць, калі міліцыянты збіраліся затрымаць маці падчас малебну.

Марыя Мацко расказала, што міліцыянты ціснулі псіхалагічна. Машына з запаленымі фарамі ехала проста на вернікаў. Штодзень маленькія крыжыкі, знічкі, шыльдачкі, што прыносілі з сабою вернікі, затаптваліся проста ў зямлю.

10 снежня на хатні тэлефон Марыі Мацко патэлефанаваў начальнік участка аховы парадку, што па вуліцы Васілька, Дзмітрый Недагібчанка, запрасіў яе ва ўчасце так, як сказаў, паразмаўляць. Паразмаўлялі, а Недагібчанка на падставе гутаркі ўзяў і склаў на Марыю пратакол адміністрацыйнага правапарушэння па артыкулу 193 "Парушэнне заканадаўства аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях».

У ноч на Каляды з вуснага дазволу гарвыканкама, на месцы ўзарванай Фары адбыўся ўрачысты малебен. Малітву адгаварылі на лаціне, на беларускай, польскай і літоўскай мовах.

27 студзеня Марыя Мацко прыйшла на камісію па адміністрацыйных справах. Паводле яе словаў, людзей, якія сядзелі ў камісіі вельмі хвалявала адно пытанне: «Чаму вы моліцеся пабеларуску?». Усе прысутныя былі аднагалосна за максімальнае пакаранне - 5 «мінімалак». Але ўрэшце рэшт «злітаваліся» і прысудзілі толькі адну.

Марыя лічыць, што жорсткія і незразумелыя дзеянні ўлады, міліцыі і прадстаўнікоў камісіі можна вытлумачыць толькі адным: «Фара Вітаўта - гэта храм, па якому мы можам прачытаць нашу гісторыю. Ён увесь час быў то каталіцкі, то праваслаўны. І навошта тлумачыць, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі былі акупаваныя Расеяй. Лепей казаць, што мы заўсёды былі братамі».

**Павал Мажэйка**

**P.S. Адзін з прадстаўнікоў камісіі, якая выносіла прысуд Марыі Мацко, крычаў: «Вы пошли туда молиться, чтобы привлечь внимание, и чтобы про вас написала ПАГОНЯ!». Мы дзякуем гэтаму прадстаўніку за нададзеную ўвагу: ён не памыліўся ў сваіх здагадках. Мы напісалі. У сваю чаргу ПАГОНЯ звяртаецца да адпаведных структураў з патрабаваннем належным чынам разабрацца ў гэтай справе. Мы лічым беспадстаўным абвінавачванне, вынесенае Марыі Мацко па артыкулу 193 КАП. Як вядома, размова ў артыкуле ідзе пра стварэнне рэлігійнай арганізацыі і кіраванне ёю без рэгістрацыі яе статута, альбо арганізацыі і правядзення кіраўнікамі і збіранне гэтай арганізацыяй спецыяльных дзіцячых і юнацкіх сходаў, а таксама працоўных, літаратурных ды іншых гурткоў і групаў, якія не маюць дачынення да адпраўлення культу».**

**У артыкуле абсалютна не гаворыцца пра адказнасць грамадзянаў за малітву дзе б ні было: ва ўласнай кватэры, касцёле ці нават на плошчы Леніна. Патрабуем адмяніць беспадстаўнае абвінавачванне і прынесці на старонках ПАГОНІ прабачэнні Марыі Мацко.**

# Ствараюцца фермы... па развядзенні страусаў

**Пра гэта паведаміў у мінулую сераду начальнік галоўнага ўпраўлення ветэрынарыі Менсельгаспрада рэспублікі Аляксандр Аксёнаў.**

**Паводле ягоных словаў, гаспадаркі Гарадзенскай вобласці ўжо закупілі ў Польшчы шэсць экзатычных птушак, якія стануць «першымі ластаўкамі» беларускай страусагадоўлі». Як сказаў Аляксандр Аксёнаў, сёлета Беларусь мае намер закупіць за мяжою яшчэ каля 200 страусаў. Да таго ж, закупы будуць рабіцца «толькі ў добраўпарадкаваных краінах з пункту гледжання распаўсюджання інфекцыйных захворванняў жывёлаў».**

**Аляксандр Аксёнаў таксама паведаміў, што мэтаю развядзення страусаў з'яўляецца насычэнне рынку рэспублікі экзатычнымі харчовымі прадуктамі.**

# Суд і райвыканкам адмянілі штрафы

**Напружаным быў нядаўна дзень у сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Віктара Тураўца са Смаргоні. Зранку на адміністрацыйнай камісіі райвыканкама разглядаўся другі ў бягучым годзе матэрыял. На першым пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі райвыканкама за распаўсюджванне ўлётак у час несанкцыянаванага перадвыбарчага пікету ён быў аштрафаваны на адзін мінімальны заробак.**

Пра гэта ПАГОНЯ пісала ў артыкуле «Смаргонскі пікетоўца не скарыўся ўладам» (N41 ад 2 лістапада). Нагадаю, што падчас пасяджэння камісіі Віктар арганізаваў своеасаблівы пікет, трымаючы ў руках плакат «Учора Мілошавіч, заўтра - Лукашэнка». І вось на апошнім пасяджэнні камісіі за распаўсюджванне ўлётак падчас несанкцыянаванага пікету Віктар быў аштрафаваны на два мінімальныя заробкі (7200 рублёў).

У той жа дзень адбыўся суд па скарзе Віктара Тураўца на пастанову адміністрацыйнай камісіі аб спагнанні з яго штрафу у адзін мінімальны заробак. Суд вёў суддзя Аляксандр Квяткевіч. У судовым рашэнні сказана: «У пастанове...аб прыцягненні Тураўца да адміністрацыйнай адказнасці не ўказана, у чым заключалася парушэнне ўстаноўленага парадку выrabу распаўсюджаных Тураўцом улётак, якім нарматыўным актам рэгулюецца парадак выrabу друкаваных выданняў..,не ўказана, якія з улёток...накіраваныя на «причинение ущерба государственному и общественному порядку, правам и законным интересам и в чём это выражается». Кіруючыся артыкулам 347 ч.1 ГПК Рэспублікі Беларусь, суддзя вырашыў штраф адмяніць і справу спыніць.

Рашэннем Смаргонскага райвыканкама пастанова адміністрацыйнай камісіі аб спагнанні штрафу ў памеры 7200 рублёў адменена.

**Янка Крывіч**

# Як у народзе сустракалі тысячагоддзе?

**Нам выпаў унікальны шанец жыць на пераломе тысячагоддзяў. З гэтай нагоды розныя гарады свету падрыхтавалі для сваіх жыхароў адмысловыя ўрачыстыя святкаванні. Крамлёўскую плошчу ў Маскве залілі штучным лёдам, парыжане любаваліся, як зіхаціць Эйфелева вежа, упрыгожаная новымі блакітнымі агеньчыкамі. А як жа адсвяткавалі Новы 2001 год гарадзенцы? Ці адчувалі яны прыход Новага тысячагоддзя?**



**Вольга Восіпаўна**, *працуе тэхнічкай у медуніверсітэце:*
- Сустракала трэцяе тысячагоддзе са сваёй сям'ёй, дзецьмі і ўнукамі. Сустракала з надзеяй, што мае нашчадкі будуць жыць лепей, чым я. Узняў святочны настрой снег і завіруха, якая, спадзяюся, вымяце ўсё кепскае, што было ў гэтым стагоддзі. Веру, што ў новым тысячагоддзі мы будзем жыць у міры і сяброўстве, шчаслівыя і здаровыя.



**Ірына і Святлана**, *студэнткі ГрДзУ:*
- Спачатку святкавалі дома, потым пайшлі на Савецкую пад елку. Там быў класны феерверк, п'яныя бегалі, карагодзкі вадзілі, хлопец у страшнай масцы людзей палохаў, Дзеды Марозы выступалі. Выпаў пухкі снег, што асабліва ўзрадавала.



**Іван Рычардавіч**, *інжынер:*
- Святочны настрой, канешне ж, прысутнічаў. Асабліва ў маіх маленькіх дзяцей: зялёная ялінка ў хаце, падарункі. Сустракаў дома з сям'ёй. На елку нікуды не хадзілі. На Савецкую далёка, а на Дзевятоўцы ў нас елка слабенькая.



**Алена Паляшчук**, *юрыстка:*
- Адзначала Новы год дома, разам з сям'ёю, але асаблівай урачыстасці, адчування тысячагоддзя не было. Увогуле, настрой быў мярзотны. Усе сябры мае так кажуць. Хочацца свята, а яго ў душы няма.



*Аляксандр*, працуе на ферме:
- Я сустракаў Новае тысячагоддзе ў Прывалках, вёсачка такая на мяжы з Літвой. Я працую на прадпрыемстве, якое выrabляе ўгнаенні - біягумус, і з 30 снежня па 3 студзеня я мусіў знаходзіцца на сваім працоўным месцы. Бо каб я не выканаў сваю частку працы, прадпрыемства спынілася б. Свята троху адчувалася, хадзілі ў мясцовы клуб. Там як заўсёды - дым, петарды.

**Юрый**, *прадавец (не захацеў фатаграфавацца):*
- У Навагоднюю ноч працаваў на Савецкай плошчы. Нічога там незвычайнага не было. Музыка - абы-што: рускія-народныя нізкай якасці. Усё ачэплена міліцыянтамі. Потым паехалі з сябрамі на кватэру. Нічога асаблівага.

**Алеся Сідлярэвіч**

# «Прэмія года» – намінацыя артыст

**Напярэдадні сустрэчы Новага года гарадзенскі аблвыканкам канчаткова зацвердзіў спіс дзеячаў культуры, якія ўнеслі найбольшы ўклад у развіццё гэтай галіны ў нашай вобласці. Сярод узнагароджаных прэміямі года - артыст Рэспублікі Беларусь Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра Сяргей Курыленка.**

У Гарадзенскім тэатры Сяргей Курыленка - з 1980 года, г.зн. адразу пасля заканчэння Тэатральна-мастацкага інстытута. 20 гадоў ён служыць аднаму тэатру. Колькі за гэты час сыграў роляў - не лічыў, але зараз больш за палову рэпертуара - п'есы з ягоным удзелам.

***- Сяргей, калі б ад Вас залежала ўганараванне гэтай прэміяй, каму б Вы аддалі перавагу са сваіх калег?***

- Я б не ўзяўся судзіць. Бо мы, акторы, зусім інакш бачым сваіх калег, чым нашыя гледачы. Нашыя ацэнкі часта разыходзяцца. (Але крыху пазней Сяргей Курыленка прызнаўся, што на мастацкім савеце тэатра галасаваў за Шалкаплясава - заўвага аўт.).

***- Актор - цяжкая праца?***

- Так, гэта няпроста. Калі, канешне, актор не халтурыць, а працуе па-сапраўднаму. Я памятаю, як была ўражаная мая маці, калі прыехала ў Менск на мой дыпломны спектакль, тым, што да фіналу на мне была мокрая ад поту кашуля. Многія, пакуль самі не судакрануцца з гэтым, не вераць, што граць на сцэне - цяжкая праца.

***- Бывае так, што не хочацца ісці на працу?***

- Бывае. Калі-нікалі падаецца, што мы нікому не патрэбныя. Я не пра гледачоў. Гэта акурат тое, дзеля чаго варта забывацца на ўсё непрыемнае і выходзіць на сцэну. Я маю на ўвазе адносіны дзяржавы...

***- Гэта значыць, неадэкватнасць узнагароджання за сваю працу?***

- Ну канешне! Мы ж самыя апошнія ў спісе нізкааплочваемых. Часам выпадае некаму недзе падхалтурыць, але гэта рэдкія эпізоды. Ну вось, прэмія гэтая...

***- ...Якая таксама не можа быць рэгулярнай. Што Вас, Сяргей, падтрымлівае ў жыцці, дапамагае справіцца з непрыемнасцямі?***

- Ну, па-першае, я даволі спакойна стаўлюся да праблемаў. Ад іх нікуды не падзенешся. Бывае, канешне, цяжка. Але так, каб адчаяцца...не, ніколі. А дапамагаюць мне мае сваякі (ківае ў бок дачкі - Ксюша сядзіць побач з намі. Яна пры гэтым усміхаецца і пагаджаецца). На іх часам і абурэнне выплёскваеш і нездавальненне, якое прыносіш з тэатра. Але наогул, галоўны стымул у жыцці і ў працы - гэта адчуванне поспеху ад сваёй ігры. Калі недзе ў сярэдзіне спектакля ты разумееш, адчуваеш, што глядач твой - гэта неверагоднае адчуванне.

***- Што Вы адчуваеце пасля спектакля? Узбуджэнне доўга не праходзіць? Ці як дасведчаны профі, здымаеце ў грымёрцы «маску» і спакойна крочыце дахаты?***

- На сцэне актор, з аднаго боку, зараджаецца энергіяй залы, а з другога - сам шмат яе аддае. Таму цяжка быць спакойным пасля ігры. Гэта ж эмоцыі. Нехта расслабляецца спіртным. Мне, напрыклад, пасля спектакля трэба на некаторы час проста ўтаропіцца ў «яшчык».

**Ксенія (дачка):**

- А пасля прэм'еры спектакля «Кароль, дама, валет» (Сяргей Курыленка ў галоўнай ролі - заўвага рэд.) тата ажно тры гадзіны распавядаў пра яго дома, ніяк не мог супакоіцца.

***- Гэта пасля трох гадзін самога спектакля?! Аднаго тэксту там, здаецца, надзвычай шмат. Як Вам удаецца столькі ў памяці трымаць?***

- Не, гэта не самы вялікі тэкст у мяне. Вось у п'есе паводле Б.Слэйда «У будучым годзе», для маёй ролі тэксту было 38 аркушаў.

***- Як сустракаюць Новы год акторы?***

- Таксама, як і ўсе астатнія грамадзяне. Розніца, бадай, толькі ў тым, што некаторым з нас 1 студзеня ўжо трэба быць на сцэне ў ранішнім спектаклі для дзяцей.

***- І як вам гэта ўдаецца?***

- А што рабіць, гэта наша работа. Але бывалі забаўныя выпадкі. Аднойчы на такім ранішнім спектаклі - а ішла казка «Тры Іваны» - не прыйшоў адзін з «Іванаў», і мне давялося аддувацца за двaіх. Дзякуй Богу, яны адначасова на сцэне не павінны былі быць. А ў другі раз п'еса ледзьве не спынілася на сярэдзіне з-за актора, які іграў Цара, але з'явіўся на спектакль у досыць «вясёлым» стане. Гэта таксама была казка «Гора баяцца - шчасця не бачыць», дзе я таксама іграў Івана, гэтым разам салдата. Па ходу дзеяння Іван аддае Цару табакерку, у якой сядзіць гора-злашчасце. Рэквізіт у нас просты: чарадзейная табакерка была са звычайнай металічнай мыльніцы. Цар не заўважыў «табакерку» на «троне» і ўсеўся на яе. «Табакерку» заклініла. Пасля некалькіх няўдалых спробаў яе адчыніць, Цар вырашыў «зымправізаваць»: ён загадаў зрабіць гэта Івану і абвесціў, што, калі той не справіцца з заданнем, дык пазбавіцца галавы. Вось і ўсё. Я з гэтай табакеркай-мыльніцай выскачыў за кулісы, але і там у мяне нічога не атрымалася - заклініла табакерку наглуха. Што тут рабіць? Калі Цар «пазбавіць» жыцця галоўнага героя пасярод п'есы - спектакль спыніцца. А мыльніца не адчынялася. З ёю я выскачыў да Цара: будзь, што будзе! І дзякуй Богу, у таго нешта спрацавала ў галаве, Цар узяў «табакерку» і папросту зрабіў выгляд, што яна адчынілася. Жыццё майго героя і п'есы было выратаванае.

**З акторам года гутарыла Ніна Палуцкая**




Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Сяргей Курыленка




**Набліжаецца да завяршэння конкурс ПАГОНІ «Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны». У вызначэнні чалавека-сімвала рэгіёна прынялі ўдзел знаныя навукоўцы, літаратары, журналісты, студэнты.**

**ПАГОНЯ ад пачатку не вылучала строгіх крытэрыяў выбрання наміnанта. Галоўнае - каб гэты чалавек быў патрыётам сваёй вялікай і малой Радзімы, шмат паўплываў на свядомасць беларускага народа, унёс уклад у сусветную цывілізацыю і адчуваў непарыўную сувязь з Гарадзеншчынай.**

**Найбольш часта ўзгадваўся пісьменнік Васіль Быкаў, які даўно мае сусветную вядомасць, прызнаны маральным аўтарытэтам беларускай нацыі. Абгрунтаванасцю, эмацыйнасцю і пафасам у самым лепшым сэнсе вызначаліся допісы з вылучэннем паэтаў і пісьменнікаў: Максіма Багдановіча, Аляксея Карпюка, Ларысы Геніюш.**

**Прапанова прызнаць Чалавекам стагоддзя Яўхіма Карскага нагадала нам, што гэты чалавек заклаў навуковыя асновы беларушчыны як такой. Макар Краўцоў, які напісаў гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», злучыў нацыю вакол сапраўднага сімвала. Браніслаў Тарашкевіч распрацаваў граматыку беларускай мовы. Сяргей Прытыцкі стаў тым, чый голас аб'яднаў Усходнюю і Заходнюю Беларусь.**

**Праз два тыдні ПАГОНЯ падвядзе вынікі конкурсу. Яшчэ ёсць час, каб унесці свае прапановы. Мы надрукуем іх з вялікім задавальненнем.**

## Яе вітала планета Зямля

**Ніхто да яе не праславіў свой горад так, як гэтая хударлявая дзяўчына. На той час яна мела 39 кілаграмаў вагі і 151 сантыметр росту. Штодня трэніравалася ў спартзале гарадзенскага стадыёна пад кіраўніцтвам дасведчанага трэнера Рэнальда Кныша. А затым былі Алімпіяда ў Мюнхене (1972 г.). Вольга Корбут стала чэмпіёнкай у камандным заліку і вольных практыкаваннях. Заваявала таксама сярэбраны медаль. Аглушальны поспех мела ў час Алімпіяды ў Манрэалі (1976 г.). У 1974 годзе міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА надала ёй званне «Пасол міру». Яна атрымала кубак «Лепшай спарцменкі Англіі». У ЗША ствараліся спартовыя клубы яе імя.**

Гэта афіцыйныя звесткі. У жыцці ўсё было складаней. Упартыя трэніроўкі спалучала з вучобай у Гарадзенскім педагагічным інстытуце, які скончыла ў 1973 годзе. За шэсць гадоў быў пройдзены шлях ад першай трэніроўкі да алімпійскага медалю. «Вольга Корбут - дзёрзкасць, адвага, вынаходлівасць», - сказала пазней шматразовая савецкая чэмпіёнка Ларыса Латыніна.

Вольга Корбут стала вядомай усяму свету. На Алімпіядзе ў Мюнхене праз тэлебачанне яе пабачыла 800 мільёнаў гледачоў. У Беларусь, на сціплы гарадзенскі адрас сыпаліся лісты з розных краінаў. Кажуць, гарадзенская пошта дастаўляла Вользе да 20 тысяч лістоў і пакетаў у год. Калі іх раскласці ў ланцужок, то гэтая дарожка склала б пяць кіламетраў!

Яе прымалі прэзідэнты і прэм'ер-міністры, сфатаграфавацца з Вольгай Корбут лічылі за гонар многія палітыкі і вядомыя асобы. Яна сустракалася з астранаўтам Армстрангам і рэкардсменам Алімпіяды-68 Робертам Бімонам. Мэр Чыкага абвясціў 26 сакавіка 1976 года «Днём Вольгі Корбут».

Сапраўды, яна была цэлай грамадскай з'явай і здабыткам нацыі. Гэта чалавек, якому трэба паставіць помнік, услявіць у назвах вуліцаў.

Нельга не назваць трэнера геніяльнай гімнасткі - Рэнальда Кныша. Ён і сёння жыве ў Гродне. Да славутых перамог Вольгі падрыхтаваў чэмпіёнку СССР гімнастку Тамару Аляксееву, Алімпійскую чэмпіёнку Алену Валчэцкую. Апошняя і параекамендавала трэнеру звярнуць увагу на вучаніцу чацвёртага класа сярэдняй школы №10.

Так паступова ўзыходзіла зорка Вольгі Корбут.

Жыццё працягваецца. Цяпер Вольга жыве ў Злучаных Штатах, трэнер па гімнастыцы. На Радзіме, у Гродне, яе памятаюць людзі больш сталага ўзросту. Няма ў нас, на жаль, як у сапраўдных еўрапейцаў пачуцця пашаны і павагі да асобы, якая прынесла гонар і славу Гарадзеншчыне. Ні турніраў яе імя, ні ўвекавечання яе спартовага подзвіга. Адно слова, беларусы мы...

**Сцяпан Ярашчук**

## Гарадзенцаў у энцыклапедыю

**Добры дзень, шаноўнае спадарства! Дазвольце выказаць сваё меркаванне з нагоды конкурсу. Старажытная і прыгожая, таленавітая і працавітая Гарадзеншчына падаравала чалавецтву ў XX стагоддзі цэлае сузор'е выдатных і надзвычайных людзей. Для мяне, бясспрэчна. Чалавекам стагоддзя Гарадзеншчыны з'яўляецца акадэмік Яўхім Фёдаравіч Карскі (1.01.1861-29.04.1931). Думаецца, яго постаць сімвалізуе сабою найлепшыя рысы народа Наднёманскага краю.**

**Слынны сын Беларусі і свайго часу, Карскі стварыў «Энцыклапедыю беларусазнаўства», навукова абгрунтаваў існаванне беларускай нацыі, заснаваў беларускае мовазнаўства і літаратуразнаўства...**

**Выключнасць і роля яго ўкладу для беларускай культуры відавочны. Чытайма фундаментальную працу «Беларусы» ў трох тамах найвыдатнейшага акадэміка з вёскі Лаша! Наогул, лічу, што Гарадзеншчына вартая стварэння свайго энцыклапедычнага даведніка «Асобы. Мысляры. Асветнікі...». Унікальны рэгіён! Многія лета волатам Духу!**

**З пашанай,
Станіслаў Бугар,
вёска Дзятлавічы**

## Летувіская школа ў Радуні

Радуньскае Летувіскае аб'яднанне «Gintasas», што ў перакладзе азначае «бурштын», адкрыла ў мястэчку летувіскую нядзельную школу. Штотыдзень тут будуць праходзіць заняткі па вывучэнні летувіскай мовы, этнакультуры, гісторыі й геаграфіі. На Радуншчыне існуе ўнікальная мясцовасць, заселеная балтамоўнымі басьцянамі (нашчадкамі прусаў). У вёсцы Пеляса ў іх ёсьць летувіская сярэдняя школа, культуровы цэнтар «Tivine» («Радзіма»), а таксама летувіскі касьцёл.

**Ул. інф.**

# Славутыя дзеячы Астравеччыны

**Выйшаў у свет краязнаўчы біяграфічны даведнік «Культура зямлі Астравецкай». Складзены ён астравецкай даследчыцай Верай Тумаш.**

У выданні расказваецца пра мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, навукоўцаў, якія нарадзіліся або жылі на Астравеччыне. Сярод іх - вядомы беларускі навуковец, пісьменнік Адам Мальдзіс; паэт, драматург, каталіцкі святар Казімір Сваяк; выбітны кампазітар, грамадскі дзеяч Альбін Стаповіч; рускі навуковец XIX стагоддзя, дыпламат, аўтар кнігі «О корнях японского языка» Іосіф Гашкевіч ды іншыя славутыя дзеячы Астравеччыны (усяго 22 чалавекі).

Выданне ажыццёўлена на сродкі астравецкага райвыканкама, надрукаванае яно ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор».

**Алеся Сідлярэвіч**

## Зямляк – чыкагскі гангстар

**Хачу нагадаць паважанай ПАГОНІ пра тое, што Гарадзеншчына славутая не толькі навукоўцамі і літаратарамі, але і антыгероямі. Вось, напрыклад, чыкагскі гангстар Меір Ланскі. Ва ўсіх літаратурных крыніцах, у шматлікіх дакументальных і мастацкіх фільмах указваецца, што Ланскі нарадзіўся ў Польшчы. Між тым, ён - ураджэнец нашага горада.**

**Я не хачу пасмяяцца, пакпіць з конкурсу «Чалавек стагоддзя». Але вялікія злачынцы прыцягваюць часам больш увагі, чым сумленныя людзі. Высілкамі амерыканскіх мас-медыя імя Ланскага стала вядомым па ўсім свеце як сімвал крымінальнай кар'еры нікому невядомага жыдоўскага эмігранта. Гэта таксама наша гісторыя, як і ўзгаданы газетай камуніст Прытыцкі, як савецкі генерал Паўлоўскі.**

**Віктар Грыгаровіч,
г. Гродна**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Аляксей Дзенісеня - лепшы ў «Нёмане»-2000

**Неафіцыйны сайт гарадзенскага футбольнага клуба «Нёман» падвёў вынікі свайго апытання на лепшага футбаліста «Нёмана» ў 2000 годзе. Ім стаў дэбютант «Нёмана», нападнік Аляксей Дзенісеня, за якога аддалі свае галасы больш за 20 працэнтаў рэспандэнтаў.**



Аляксей Дзенісеня

Аляксей Дзенісеня нарадзіўся 6 сакавіка 1976 года, выхаванец менскай дынамаўскай школы футболу. Непрацяглы час гуляў у менскім «Дынама», а напярэдадні мінулага чэмпіяната з'явіўся ў «Нёмане». У гульні «Нёмана-Белкарда» з «Нафтан-Дэвонам» Аляксей Дзенісеня забіў ажно пяць галоў. Відавочна, што гэты, без малога, подзвіг і паўплываў на канчатковы вынік апытання ў Internete. Аляксей апярэдзіў лепшага бамбардзіра «Нёмана» ў гэтым сезоне Сяргея Давыдава і дасведчанага Віктара Юйко.

Аднак лічыць вынікі апытання нейкім глабальным усефанатаўскім рэйтынгам, на жаль, не даводзіцца. З-за слабога распаўсюджвання Interneta ў нашым грамадстве, колькасць тых, хто аддаваў свае галасы за футбалістаў «Нёмана», не дацягнуў нават да сотні.

У той жа час, напрыканцы снежня, з'явіўся і сайт нашага хакейнага «Нёмана». Апроч звыклай «нёманскай» інфармацыі, сайт абяцае раваць наведвальнікаў апаратыўнай інфармацыяй з НХЛ.

**Павал Мажэйка**

ЗАЛАТАЯ ДЗЕСЯТКА ПАГОНІ

# Яшчэ адна Карона Яніны Карольчык

**Другі год запар Яніна Карольчык становіцца мацнейшай сярод спартоўцаў Гарадзеншчыны. Шосты раз у гісторыі мы вызначалі "залатую" дзесятку па выніках мінулага сэзону.**

На пачатку ўзгадаем намінантаў папярэдніх гадоў. Пераможцамі па версіі "Пагоні" былі:

1995 год - **Эдуард Хямяляйнен** (лёгкая атлетыка, дзесяцібор'е)

1996 год - **Уладзімір Дуброўшчык** (лёгкая атлетыка, кіданьне дыску)

1997 год - **Анатоль Федарэнка** (грэка-рымская барацьба)

1998 год - **Ігар Каляда** (плаваньне)

1999 год - **Яніна Карольчык** (штурханьне ядра)



Яніна Карольчык

Адыйшоўшы ў Лету 2000-ы год, у сьвеце спорту быў адметны перш за ўсё Алімпіядай у аўстралійскім Сыднеі. Поспехі на ёй беларусаў, у прыватнасьці выхаванцаў Гарадзенскай вобласьці, і прадвызначылі склад "залатой дзесяткі".

Гістарычны штуршок ядра **Яніны Карольчык** "вагой" у залаты алімпійскі медаль не пакінуў альтэрнатывы ў вызначэньні першага лаўрэацкага месца. Апошнія гады Карольчык жыве й трэніруецца ў Менску, але па ранейшаму на спаборніцтвах рэпрэзэнтуе Гарадзеншчыну. Разгон у сезон "дзяўчыны зь ядром" быў ня надта ўдалы, але ў самы вырашальны момант яна зьдзесьніла мініподзьвіг. У дадатак зьбіўшы пыху зайздросным супернікам з расейскай дружыны.

З вызначэньнем іншых п'едэстальных месцаў праблемаў таксама не было. Другі радок у сьпісе займае кідальнік молату **Ігар Астапковіч**. Срэбраны прызёр Алімпіяды-92, чэмпіянатаў сьвету-91, 93, 95, чэмпіён Эўропы-90 дадаў да сваёй калекцыі бронзу Сыднею.

Усьлед за сваім мужам разьмясьцілася атлетка **Ірына Ятчанка**. Вядомая дыскаболка выйграла ў сэзоне міжнародны турнір, а на Алімпіядзе стала трэцяй.

На чацьвёртай пазыцыі яшчэ адзін малатабойнік **Іван Ціхан**. Ён здабыў першае месца ў розыгрышу Кубку Эўропы (2-я ліга), а на "зялёным матэрыку" апынуўся ў непасрэднай блізкасьці ад медаля (вынікове чацьвёртае месца).

На пятым радку ў нашым хіт-парадзе знаходзіцца гімнастка **Тацяна Жарганава**. Гарадзенская "дзюймовачка" (рост - 147 см, вага - 40 кг) заняла шостае месца на чэмпіянаце кантыненту ў практыкаваньні на брусах, а ў Аўстраліі на тым жа снарадзе стала пятай. На тле бляклага выступу іншых беларускіх майстроў спартовай гімнастыкі гэта можна лічыць посьпехам.

Шостае месца займае кідальніца молату **Людміла Губкіна**. Менавіта на такой пазыцыі яна спынілася і ў Сыднеі. У актыве Губкінай таксама прызавы посьпех на міжнародным турніры.

Далей ідзе барэц грэка-рымскага стылю **Віталь Жук**. Ён заваяваў бронзавы медаль на чэмпіянаце Эўропы (вагавая катэгорыя да 63 кг). Узьняцца вышэй у нашым рэйтынгавым лісьце Жуку не дазволіла няўдача на алімпійскіх спаборніцтвах (там ён падзяліў толькі 13-20-е месца).

Восьмы-дзявяты радкі ў сьпісе дзеляць вясьляркі **Алена Бець** і **Сьвятлана Вакула**. Выхаванкі мастоўскай школы веславаньня сталі пятымі на эўрачэмпіянаце на байдарцы-чацьвёрцы (дыстанцыя - 500 м). На Алімпіядзе ў складзе экіпажу дзяўчаты занялі шостае месца.

Завяршае дзесятку футбаліст "Нёману-Белкарду" **Сяргей Давыдаў**. Гэты легіянер каманды ўсталяваў новы снайпэрскі рэкорд клубу, а па апытаньнях ПАГОНІ й "Милицейского вестника" ўганараваны тытулам лепшага футбаліста вобласьці.

**Падрыхтаваў Хельмут Каменскі**

1. Магічная формула, таямнічае слова, якому знахарамі прыпісвалася цудадзейная сіла (11 літараў). 2. Ячменныя крупы, а таксама каша з такіх крупаў (5 літараў). 3. Набор словаў і выразаў, які, паводле ўяўлення забабонных людзей, мае магічную, чарадзейную сілу (6 літараў). 4. Пост перад Калядамі (у вернікаў), а таксама перыяд часу, адпаведны гэтаму пасту (9 літараў). 5. Даўні народны звычай адзначаць вечар напярэдадні Новага года (7 літараў). 6. Падаючая зорка (6 літараў). 7. Пацеркі, маністы, упрыгожанне з жэмчугу (6 літараў). 8. Культавая пабудова (7 літараў). 9. Перапынак у рабоце для адпачынку (6 літараў). 10. Месца, надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, незвычайнымі надпрыроднымі сіламі ды ўласцівасцямі (6 літараў). 11. Апошні дзень перад постам (у вернікаў), калі дазваляецца есці скаромнае (8 літараў). 12. Нешта незвычайнае, цудоўнае (перан. зн.; 5 літараў). 13. Усё прыгожае і прыемнае; краса, чароўнасць (8 літараў).

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў навагоднім N49 (496)**

1. Зазімак. 2. Даміно. 3. Яхант. 4. Чары. 5. Эра. 6. Баль. 7. Казус. 8. Мішура. 9. Дыядэма.



# Неверагодна, але факт...

❋ 62 тысячы 824 паштоўкі даслаў на Каляды ў снежні 1975 года Вернер Эрхард з Сан-Францыска.

❋ Звычайны памер ападкаў падчас граду - ад 5 да 10-ці міліметраў у дыяметры. Але ў цэнтральных і заходніх раёнах ЗША выпадалі і градзіны дыяметрам да 15 сантыметраў.

❋ Першую фабрыку марозіва пабудавала ў Балціморы хатняя гаспадыня Нэнсі Джонсан.

❋ Новасібірскі святар Віктар Смятаннікаў не так даўно першым са служыцеляў царквы здзейсніў скачок з парашутам на льды Антарктыды, усталяваў на Паўднёвым полюсе праваслаўны крыж, адслужыў там малебен у гонар 2000-годдзя Раства Хрыстовага. Падчас скачка з вышыні 1500 метраў пры тэмпературы мінус 30 градусаў айцец Віктар дэсантаваўся ва ўніформе.

❋ Самы хуткі гол забілі Дуг Смайл у гульні «Вінніпег Джэц» 20 снежня 1981 года і Брайан Трацьер у гульні «Нью-Ёрк Айлэндэрз» 22 сакавіка 1984 года, праз 5 секундаў пасля свістка.

❋ Нядаўна ў Партугаліі непадалёку ад Лісабона адбылася незвычайная акцыя. На новым мастку цераз рэчку Таргус быў накрыты стол даўжынёю ў пяць кіламетраў для ўсіх ахвотных. Удзел у трапезе прыняло каля 15 тысяч чалавек.

❋ У 1986 годзе ў Нью-Ёрку Тоні Даўдэсуэл з'еў 1,53 кілаграма нерасталага марозіва за 31,67 секунды.

❋ Самы вялізны ледавік у свеце - ледавік Ламберта - знаходзіцца ў Антарктыдзе і мае даўжыню як мінімум 700 кіламетраў.

❋ Лыжная гонка, якая праводзіцца ў Швецыі, лічыцца самай доўгай у свеце. Працягласць яе - 86 кіламетраў.

❋ Елачка да аднаго метра расце 10 гадоў.

❋ Абсалютны нуль тэмпературы па шкале Кельвіна адпавядае мінус 273,15 градуса Цэльсія. Пры гэтым спыняецца атамны і малекулярны цеплавы рух.

❋ Фірма «Ігл Бойз Дайал-а-Піцца» ў Крайстчэрчэ (Новая Зеландыя) рэгулярна дастаўляе піццу на антарктычную станцыю Скотт-Бэйз, дзе працуе новазеландская экспедыцыя, якая выконвае антарктычную праграму.

❋ Калі рымляне ладзілі банкеты, самым пачэсным месцам лічылася шостае.

❋ У студзені 1997 года даследчык Борге Осланд (Нарвегія) стаў першым у гісторыі чалавекам, які перасек Антарктыку без аніякай падтрымкі звонку. Падчас пераходу ён цягнуў 180-кілаграмовыя сані са сваім рыштункам, выкарыстоўваючы лыжы і ветразь, калі дзьмуў спадарожны вецер.



# Гараскоп



♈ **Баран (21.03-20.04).** Сустрэчы з партнёрамі лепей пакуль адкласці. Прыгатуйце на Каляды нешта нязвыклае і смачнае. Фінансавыя страты будуць мінімальнымі, а задавальненне - неверагодным.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Гэты тыдзень будзе спрыяльным для цёплых сяброўскіх зносінаў і прыемных сустрэчаў з каханай(-ым). У перадкалядныя дзянькі Вам давядзецца крыху больш, як заўжды, пабегаць па магазінах. Але ўсе Вашыя намаганні не стануцца марнымі.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Чаканне зменаў і рамантычны настрой дапамогуць Вам перарабіць важныя справы яшчэ да Калядаў. Зносіны з прадстаўнікамі процілеглага полу абяцаюць быць надзвычай паспяховымі. Запланоўце дзелавыя сустрэчы на аўторак.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Калі Вам зусім не патрэбныя нервовыя стрэсы, варта злёгку зменшыць выдаткі. Калядны вечар запомніцца Вам надоўга дзякуючы таму, што Вы загадзя ўсё падрыхтуеце.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Завітайце на Каляды да сваякоў альбо знаёмых, пра што не забудзьцеся іх папярэдзіць. Захапіце ў госці, акрамя маленькіх падарункаў, нешта смачненькае.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Надышоў час на тое, каб пачаць рэалізоўваць запланаванае на мінулым тыдні. Будзеце калі-нікалі сябе стрымліваць - займееце рэпутацыю разважнага чалавека. Пра тое, як найлепей адсвяткаваць Каляды, патурбуйцеся заранёў.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** На гэтым тыдні сур'ёзнымі справамі лепш сябе не абцяжарваць. Другое дыханне адчуеце пасля светлага свята Калядаў. Ёсць верагоднасць сустрэчы з даўняй сімпатыяй.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Напярэдадні Калядаў Вас чакаюць толькі прыемныя турботы. Вашай рэпутацыі і незалежнасці нічога не пагражае, калі Вы не злоўжываеце сваім становішчам і прывілеямі.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Перадсвяточны настрой цалкам захопіць Вас. Зоркі варожаць Вам эмацыйны ўздым, цікавыя і карысныя знаёмствы. На Каляды чакайце гасцей.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Добрая сямейная атмасфера ўсталюецца напярэдадні Калядаў. У Вас з'явяцца перадумовы для захавання добрых сямейных стасункаў і надалей. Паспрабуйце ўстрымацца ад усяго, што можа ўчыніць шкоду Вашаму арганізму.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Вас чакаюць невялікія фінансавыя выдаткі, звязаныя перш за ўсё з набыццём калядных падарункаў. Пазбягайце прыкрых непаразуменняў з блізкімі людзьмі і не сварыцеся па дробязях.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Нарэшце спраўдзяцца ўсе Вашыя добрыя сны. Ёсць верагоднасць, што ў Вас з'явіцца ўплывовы апякун, з дапамогай якога Вы абавязкова дамажацеся поспеху. Калядны вечарок варта правесці з блізкімі сябрамі.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 03.01.2001 г. Замова 7 Наклад 7 559

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей